

# Дзвінскі ўзгорак

*Кроч на свой родны,*
*дзвінскі ўзгорак,*
*каб глядзець у будучую сінь*

**ГРАМАДСКА-ПАЛІТЫЧНАЯ ГАЗЕТА ВІЦЕБСКАГА РАЁНА, №11 (62)**
**ЛІПЕНЬ 2017 ГОДА**

**ПАМЯЦЬ**

## ШЛЯХ ДА ВЯРТАННЯ ІМЁНАЎ

**Ва ўрочышчы пад вёскай Хайсы зьявіўся ўжо другі крыж з мэмарыяльнай шыльдай у памяць пра Антона Рамашку, расстралянага тут узімку 1937-га.**

Пра яго расказаў Дзьмітры Ганчароў, старажылвёскіХайсы.Гэтуювёскуцяпер называюць «віцебскімі Курапатамі», бо ў суседнім лесе «чорныя капальнікі» разрабавалі невядомае пахаваньне ахвяраў сталінізму.

Паводле ўспамінаў 89-гадовага спадара Ганчарова, у гэты лес па начох прыяжджалі машыны, раздаваліся стрэлы, і людзі ў скураных куртках забаранялі мясцовым жыхарам хадзіць у грыбы. Але рызыканты знаходзіліся, і адзін зь іх, брыгадзір Верамееў, аднойчы натрапіў у лесе на дрэнна закапаную яму, зь якой тырчаў рукаў знаёмага пінжака. Акурат такога, які быў у Антона Рамашкі, арыштаванага колькі месяцаў таму старшыні тутэйшага калгасу «Прызыў».

Пра страшную знаходку паведамілі жонцы старшыні. А праз пару гадоў сям'я рэпрэсаванага назаўжды пакінула гэтыя мясьціны.

Паводле ўспамінаў вясковых старажылаў, у Антона Рамашкі, абвінавачанага ў прыналежнасьці да антысавецкай «Польскай арганізацыі вайсковай» было двое дзяцей. Віцебскія актывісты хочуць адшукаць старэйшую дачку, якая можа памятаць тагачасныя падзеі. Яны высьветлілі, што Яўгенія Антонаўна Рамашка, 1928 году нараджэньня, зьяўляецца жыхаркай Краснадарскага краю, і цяпер спрабуюць зь ёй зьвязацца.

Актывісты мяркуюць, што аповед дачкі рэпрэсаванага нарэшце пераканае мясцовыя ўлады, якія ўпарта не прызнаюцьурочышча каля вёскі Хайсы месцам масавых «сталінскіх расстрэлаў». Згодна з рашэньнем Мазалаўскага сельскага выканкаму, вялікая частка парэштказў, знойдзеных у лесе ў 2015-м годзе, была пахавана ў брацкай магіле як «ахвяры Вялікай Айчыннай вайны».

Удзельнікі ініцыятывы сабралі ўжо каля 30 сьведчаньняў мясцовых старажылаў, якія пацьвярджаюць, што ў лесе пад вёскамі Хайсы і Дрыкольле расстрэльвалі людзей. У памяць пра расстраляную настаўніцу Вольгу Данцыт тут ужо ўсталявалі мэмарыяльную шыльду. Імя жанчыны было надрапана на грабеньчыку, знойдзеным сярод чалавечых парэштказў у масавым пахаваньні.

Актывісты правялі ўласнае дасьледаваньне і лічаць, што тут, пад Хайсамі, у 1930-я гады зьнішчылі каля сотні чалавек, імёны якіх на сёньня вядомыя, але месца згубы і пахаваньня дагэтуль застаецца таямніцай. Гэта людзі, расстраляныя ў адзін дзень з Вольгай Данцыт і Антонам Рамашкам, тлумачыць стваральнік віцебскай ініцыятывы Ян Дзяржаўцаў:

«Вольга Данцыт была латышка. Паводле агульнадаступных крыніц, у адзін дзень зь ёй былі расстраляныя яшчэ 66 чалавек, пераважна латышоў і літоўцаў, арыштаваных у Віцебску ці Віцебскім раёне. Усе — па абвінавачаньні за ўдзел у латыскай контрарэвалюцыйнай групоўцы. Яшчэ 47 чалавек — гэта абвінавачаныя за дзейнасьць у прыдуманай чэкістамі польскай вайсковай арганізацыі і расстраляныя ў адзін дзень з Антонам Рамашкам».

Увогуле ж актывісты-дасьледнікі лічаць, што ў лесе пад Хайсамі расстраляна некалькі тысяч чалавек. Пакульулады адмаўляюццаўзяць гэтыя мясьціны пад ахову, у лесе зьяўляюцца ўсё новыя і новыя раскопы «чорных капальнікаў».

**«Радыё Свабода»**

**ВАКОЛІЦЫ**

## ВЁСКА СУЙКАВА ПАКУТУЕ БЕЗ ВАДЫ

**Чарговы раз назіраю, як дзяржаўная палітыка з касмічнай хуткасцю вядзе краіну да жудаснага калапсу. Выканаўцы ж, самі ні на што не здольныя, глядзяць кіраўніку дзяржавы ў рот істуканамі, ажываючы толькі тады, калі адтуль выляце якая бздура кшталту *#Колькаеневысыпаецца*.**

7 ліпеня ў Копысі кіраўнік ударый акцэнтам па стварэнні у населеных пунктах (словазлучэнне якое!) якасных умоў для жыцця людзей. Мне ўжо нецікава, як гэта будзе выглядаць, бо па досведу мінулых гадоў, а я сведка яго кіравання адпачатку, вядома: крыварукія выканаўцы набудуюць чарговых пацёмкінскіх дамкоў, паголяць вакол траўку ці пясок, пасадзяць у вокны лялек, апранутых у новыя фланелевыя халацікі на той выпадак, калі кіраўніку ўздумаецца праверыць, як той акцэнт дзейнічае.

Менш чым за кіламетр ад Віцебска ў Заронаўскім накірунку вёска Суйкава. Даволі вялікая па сённяшнім часе: 5 вуліц, школа, крама, больш за 200 жыхароў. Насельніцтва скарачаецца, бо пра якасныя ўмовы тут не ідзе нават гаворка: працы няма, зачыненыя ферма, пітомнік. Калісьці быў заможны калгас, але зараз гэта толькі ўспаміны. 5 калодзежаў, 4 з якіх летам перасыхаюць, і вёска, дзе рака Ужніца, азёры Іскраўскае, Дэйкаўскае, Бяздонка, нават ёсць закінутая ваданапорная вежа, пакутуе ад смагі, і гэта асноўная праблема. Людзі турбавалі ўладу і мясцовую, і абласную, збіралі подпісы, клікалі журналістаў, тыя красамоўна пісалі. Але зноўку лета, зноўку праблема. Кажуць, і школку хутка закрыюць, бо тыя, хто мае дзяцей школьнага ўзросту, пакідаюць чароўныя родныя мясціны ў пошуках ...вады.

Між тым у амбіцыйных планах раённых і абласных дзеячоў у нейкім лахматым годзе плануецца будаўніцтва 117 дамоў індывідуальнай забудовы на паўднёва-ўсходнім накірунку ад вёскі. Вы што-небудзь разумееце? Я-не...

Людзі ў Суйкова — тыповыя беларусы. Хтосьці самаадданa вядзе сваю гаспадарку, зранку да вечара апраўдваючы пагалоску, што ўлетку дзень год корміць, як Алена Янушкоўская. У Суйкова працы аніякай, толькі што, напрыклад, у крамцы, ці ў школцы, дзе пару-тройку месцічаў працуе. Калгас жа сканаў. І хоць ёсць яшчэ людзі працоўнага ўзросту, то для іх тры выйсця:

1.шукаць працу ў горадзе,

2. жыць нейкім чынам з агароду (але ж тут падатак на «дармаедства» пагражае),

3.піць і пляваць на ўсё, што з поспехам і вялікім досведам робяць некаторыя.

Апошніх відаць адразу — па сядзібках-агародзіках...

А можна быць старшынёй сельсавета шмат-шмат гадоў нязменна, як Раіса Ярошкіна. Жыве яна тут, у Суйкова, за высачэзным нятанным плотам, за якім хаваецца заможны дом з прыбудовамі, аўчаркам на ланцугу, сельгастэхнікай (мо, таму і калгас згалеў?).

На яе вуліцы Камуністычнай ажно дзве калонкі, калодзеж — для жыхароў гэтай вуліцы вада не праблема, а ў сп. Раісы і свой вадаправод ёсць, уласны. У тых, хто жыве насупраць старшыні, праблем няма, як няма і прэтэнзій, бо з галавой ад яе залежаць. Тым не менш паказалі нам людзі, як засмечаная дрэнажная сістэма знішчае і падтапляе іх агароды, пераўтварае ў багну, а колішнія выратавальныя сажалкі зацягнула цінай, і сталі яны прытулкам для гадаў. Забалочванне і дарогі —тыя яшчэ суйкаўскія праблемы.

88-гадовая стараста вёскі Сцяпанаўна на старшыню не нахвальіцца, праўда хатку сваю з фундаментам у расколінах, што на вачах прасядае да зямлі, паказвае з усіх бакоў, як і гаражык, што з прычыны падтаплення разваліўся, а страхавая не аплачвае, бо гэта здарылася не з прычыны стыхійнага бедства.

Спадарыня Наталля з вуліцы Партызанскай кажа: «Нам на вуліцу (2 км) хаця б адну калонку, то было б добра, усё б цудоўна».

Божачкі, якія ж у нас залатыя людзі! Ну райвыканкам Віцебскі, ну пастаўце вы людзям гэную калонку, вас век у малітвах памінаць суйчане будуць!

Павязаныя людзі вясковыя як тыя немаўляці: хочаш ваду, газ — ствары кааператыў, плаці штогод унёскі, дамагайся. Піць ваду хочаш з калонкі — заключай дамову з вадаканалам, плаці. Не падабаецца мясцовая ўлада — зараз да цябе прыскача санстанцыя: на падворку смецце, дровы каля хаты, яшчэ што — вока санстанцыі ведае, куды глядзець і што заўважаць у залежнасці ад баявога настрою змагара — плаці штраф! Ну, а калі ўжо і гэта не бярэ, пагражаюць забраць дзяцей — улюбёная зараз уладай зброя. Усё пережылі і перажываюць жыхары вёскі Суйкава, што побач з фестывальным Віцебскам.

Калі гэтага не ведаеш, вочы не стамляюцца любавацца прыроднай прыгажосцю мястэчка, наваколлем. А калі даведаешся, томіць пытанне: якую ж д'ябальскую праграму выконвае ўлада па знішчэнні беларусаў, краіны. І так паспяхова... Улада — стыхійнае бедства, якое ні адна страхавая кампанія не аплаціць...

**Таццяна Севярынец**
**http://bchd.info**



**ЗДАРЭННІ**

## ДВЕ АВАРИИ В ДЕНЬ

**Одно ДТП произошло 20 июля около 15 часов, когда 21-летний водитель автокрана на шасси «МАЗ», двигаясь по Гралевской улице у дома № 5 в Рубе, сбил школьницу.**

Тринадцатилетняя ученица седьмого класса выезжала на велосипеде со двора дома. В результате дорожно-транспортного происшествия девочка получила травмы и была госпитализирована.

В своем сообщении ГАИ считает необходимым напомнить, что, согласно белорусским правилам дорожного движения, детям до 14 лет запрещается двигаться по проезжей части без сопровождения взрослых. Также велосипедисты должны двигаться по специальным велосипедным дорожкам, а при их отсутствии — по обочине, тротуару или пешеходной дорожке.

Другое произошло под Витебском днем 20 июля. Неопытный водитель легковушки столкнулся с фурой – в результате аварии травмированы три человека.

Авария случилась на первом километре автодороги Р49 (юго-западный обход Витебска). 18-летний водитель автомобиля Ford 1999 года рождения на крутом закруглении дороги не справился с управлением, выехал на полосу встречного движения и столкнулся с автопоездом, которым управлял мужчина 1968 года рождения.

В результате ДТП травмированы водитель и два пассажира легковушки (2000 и 1998 годов рождения). Все трое — жители Полоцка. Как выяснилось, водитель легковушки получил водительские права немногим более недели назад.

**А.Адамов**

ЭКАНОМІКА

# ПЛАН АМАЛЬ ВЫКАНАНЫ

**Віцебскі раён з пачатку года больш паспяхова за іншыя раёны выконвае гадавое заданне па паступленні грашовых сродкаў у мясцовыя бюджэты ад продажу зямельных участкаў у прыватную ўласнасць з аўкцыёнаў: 131, 7 тыс. рублёў або 95,8% да гадавога задання.**

Па выніках працы гаррайвыканкамаў за шэсць месяцаў бягучага года па прыцягненні дадатковых грашовых сродкаў у мясцовыя бюджэты ад продажу з аўкцыёнаў зямельных участкаў для будаўніцтва і абслугоўвання жылых дамоў у прыватную ўласнасць грамадзянам начальнік землеўпарадкавальнай служ-бы аблвыканкама Ігар Левянкоў паведамляе:

- Землеўпарадкавальнай службай аблвыканкама сумесна з кансалтынгавым унітарным прадпрыемствам "Віцебскі абласны цэнтр маркетынгу", УП "Праектны інстытут Віцебскгіпразем" праведзены семінары па пытанні продажу зямельных участкаў у прыватную ўласнасць з аўкцыёнаў, на якіх разгледжаны парадак арганізацыі работ, дадзены рэкамендацыі па правядзенні рэкламнай кампаніі.

У цяперашні час па вобласці падабрана 500 зямельных участкаў для продажу ў прыватную ўласнасць. Інфармацыя пра іх (апісанне участкаў, месцазнаходжанне, наяўнасць інфраструктуры, графічны матэрыял) размешчана на сайтах, у сацыяльных сетках, СМІ. Выраблены улёткі, буклеты, якія размешчаны ў месцах масавага наведвання грамадзян.

Запершае паўгоддзе 2017 года ў бюджэт Віцебскай вобласці ад продажу зямельных участкаў у прыватную ўласнасць грамадзянам, продажу права заключэння дамоваў арэнды зямельных участкаў паступіла даходаў 631,4 тысяч., у тым ліку ў прыватную ўласнасць з аўкцыёнаў прададзена 58 зямельных участкаў на суму 359, 3 тыс. рублёў, без правядзення аўкцыёнаў у прыватную ўласнасць для абслугоўвання існуючых жылых дамоў прададзена 229 зямельных участкаў на 157,4 тыс. рублёў, з аўкцыёнаў на права заключэння дагавораў арэнды - 17 участкаў на 114,7 тыс. рублёў.

- Аўкцыёны па продажы зямельных участкаў у прыватную ўласнасць праводзіліся ў 16 з 23 рэгіёнаў, з іх у 4 раёнах яны прызначаліся, але не адбыліся па прычыне адсутнасці заяў на ўдзел. Усяго ў перыяд за студзень-чэрвень 2017 г. такімі былі 105 з прызначаных 163 аўкцыёнаў, - адзначыў Ігар Левянкоў.

На 1 ліпеня 2017 г. гадавое заданне па паступленні грашовых сродкаў у мясцовыя бюджэты ад продажу зямельных участ-каў у прыватную ўласнасць з аўкцыёнаў ужо выканана ў Чашніцкім раёне (паступіла 10,8 тыс. рублёў або 108,6 працэнта да гадавога задання), але пры гэтым з 13 даведзеных участкаў прададзены толькі адзін.

У цэлым па Віцебскай вобласці заданне (1 768,4 тыс. рублёў) па паступленню грашовых сродкаў ад аўкцыёнаў па продажы зямельных участкаў у прыватную ўласнасць выканана на 20,3% - 359,3 тыс. рублёў, паведаміў начальнік землеўпарадкавальнай службы аблвыканкама.

**А.Смаленскі**

# 18 РАЙОНОВ «МИНУСУЮТ» ПО НАДОЯМ МОЛОКА

**Об этом заявил глава Витебщины Николай Шерстнёв на областном совещании по итогам работы животноводческой отрасли за первое полугодие.**

Необходимо наладить работу так, чтобы каждый мог гордиться порядком на фермах, полях и машинных дворах — об этом забота председателя облисполкома.

Если в «Мазоловогазе» (Витебский район), «Вировлянском» (Городокский), «Лариновке» (Оршанский), «Весне-энерго» (Полоцкий) получили по 4200 л и выше, то в «Степановичах» (Городокский) и «Придвинском» (Шумилинский) — менее 1000 л. Минусуют 18 районов, хотя их потенциал позволяет наращивать объемы.

Прежде всего нужно обратить внимание на надлежащий раздой новотельных коров, обеспечив их концентратами с белковой составляющей как минимум 16%. Также не удовлетворяют товарность молока, среднесуточные привесы КРС, показатель по непроизводительной убыли телок, темпы строительства траншей для сенажа, около 40% которого хранится в курганах, не обеспечивающих должного качества. Районные власти обязаны взять под контроль все недостатки.

Начальник управления производства животновод-ческой продукции и отраслевого строительства комитета по сельскому хозяйству и продовольствию облисполкома Виктор Шебалов проанализировал состояние дел по всем позициям отрасли. В частности, производство молока составило 97,5% к аналогичному периоду прошлого года (в июне была положительная динамика — 100,7%). В среднем на корову надоено 1936 л (сортом «экстра» на перерабатывающие предприятия поступает 68% молока).

Экономисты подсчитали, что за полгода потери в сельхозорганизациях Витебщины сложились в сумме 45,9 млн руб., или 51,3% фонда зарплаты. К слову, таких денег хватило бы, чтобы обеспечить хозяйства топливом для проведения работ в июле, августе и сентябре.

По словам заместителя председателя комитета по сельскому хозяйству и продовольствию облисполкома Натальи Балицкой, от реализации скота низкими весовыми кондициями потери составили 28,3 млн руб., от продажи молока низкого качества — 12,6 млн руб. При товарности молока в 90% (сейчас этот показатель 87,8%) область также дополнительно получила бы 4,8 млн руб. На 17 июля просроченная задолженность по зарплате составила 1,4 млн руб. А вот следующие цифры уже вселяют оптимизм: с начала года количество убыточных сельхозпредприятий снизилось почти на 15%.

Подводя итог совещания, председатель облисполкома Николай Шерстнёв подчеркнул, что необходимо наладить работу так, чтобы каждый мог гордиться порядком на полях, фермах и машинных дворах.

Сейчас формируется структура посевных площадей на предстоящий сезон, позволяющая подобрать хорошего предшественника под зерновые. Нынешней осенью планируется расширить до 20 тыс. га посевы гибридной ржи. В минувшем году она давала по 40 ц/га (обычная — 20 — 22 ц/га). Сегодня под гибридную рожь занято 5 тыс. га, на некоторых участках прогнозируется урожайность до 100 ц/га. Важно, что эта культура имеет экспортный потенциал: востребована в России.

Участники совещания посетили объекты СХП «Мазоло-вогаз» УП «Витебскоблгаз», где ознакомились с передовыми технологиями сельскохозяйственного произ-водства. В этот день здесь состоялось торжественное открытие современного центра технического диагностирования, обслу-живания, ремонта и хранения техники. Поздравляя сотрудников предприятия, заместитель председателя облисполкома Виктор Аскерко сказал:

— Возведение подобного комплекса — свидетельство проявления заботы о человеке, прежде всего о механизаторе. Нам бы очень хотелось, чтобы таких примеров было больше.

Виктор Аскерко отметил, что на Витебщине ведется планомерная работа по совершенствованию ведения сельскохозяйственного произ-водства. В частности, в нынешнем году для хозяйств закуплено почти 1,5 тыс. единиц техники. Участники совещания также посетили Копысь Оршанского района, где ознакомились с преобразованиями горпоселка.

**Сергей Ляшук**
**"Витебские вести"**

ЗДАРЭННІ

# ПАТАНУЎ АДЗІНАЦЦАЦІКЛАСНІК

**11-га ліпеня ў 17-41 ад дзяжурнага РАУС ратавальнікам паступіла паведамленне аб тым, што ў садовым таварыстве «Кіравец» Заронаўскага сельскага Савета Віцебскага раёна ў вадаёме-копанцы каля 17-35 патануў навучэнец 11 класа ДУА «СШ № 46 г. Віцебска».**

Да прыбыцця падраздзя-леннаў МНС работнікамі РАУС было праведзена абследаванне берагавой лініі і акваторыі вадаёма, хлопца не выявілі.

Вадалазы МНС, якія прыбылі намесца здарэння, абследавалі дно вадаёма-копанкі. У 18-17 патанулы быў знойдзены і выцягнуты на бераг.

Абставіны здарэння высвятляюць работнікі РАУС.

**http://mchs.gov.by**

ПАДВОРАК

# БОЛЬШЕ ХРЮШЕК

**Аккурат четыре года назад беда прошлась по подворьям белорусских сельчан, подрубив под корень свинопоголовье. Тогда люди впервые услышали о смертельном заболевании животных — африканской чуме свиней.**

В соответствии с решением Витебского райисполкома № 1617 от 12.12. 2014 определены запрещающие границы для содержания свиней. В них вошли 11 деревень Октябрьского и Шапечинского сельсоветов: аг. Копти, д.д. Маклаки, Зазыбы, Заходники, Любово, Липовцы, Дыманово, Рожново, Мяклово, Макарово, Косачи. Но даже там, где разрешено обзаводиться пятачками, необходимо придерживаться определенных правил их содержания, которые закреплены в рекомендациях, утвержденных Министерством сельского хозяйства и продовольствия Республики Беларусь. Предосторожность обусловлена складывающейся обстановкой в соседних странах — Украине, России, Латвии, где периодически регистрируются очаги африканской чумы свиней.

Ветеринарный врач Витеб-ской райветстанции Анна Титова напоминает основные правила выращивания свиней в личных подсобных хозяйствах. Гражданам разрешается держать на откорме для собственных нужд не более трех голов свиней, причем только в закрытом помещении, без выгула и контакта с другими животными. До приобретения хрюшек необходимо подготовить сарай: вычистить, продезинфицировать. Для ухода за ними потребуется отдельный инвентарь, специальная одежда и обувь. Допуск посторонних лиц к пятачкам нужно ограничить. Особые требования предъявляются к кормлению животных. Комбикорма для них нужно приобретать отечественного производства в специализированных магазинах. Картофель, зерно, овощи нуждаются в термической обработке. Из рациона исключаются продукты, содержащие мясные компоненты или полученные после кулинарной обработки свинины. Не рекомендуется собирать траву вблизи лесных массивов, где возможно обитание диких кабанов, в противном случае ее придется обдавать кипятком.

Характерные признаки заболевания АЧС: повы-шенная температура, одыш-ка, рвота, появление на коже красно-фиолетовых пятен. Запрещено проводить убой больных животных без осмотра специалиста.

В Беларуси разработан и утвержден Постановлением Совета Министров план мероприятий по предупреждению заноса и распространения АЧС на территории республики на 2016-2020 годы. В нем оговорены и меры защиты свинопоголовья в личных подсобных хозяйствах граждан. Строгое следование им поможет вырастить хрюшек здоровыми и обеспечить себя качественной продукцией.

По данным сельских Советов, на начало этого года на подворьях жителей района содержалось 870 голов свиней. Из них более сотни — в Бабиничском, около этой цифры — в Задубровском, более 90 голов — в Яновичском, 83 — в Шапечинском. Меньше всего хрюшек обосновалось в подсобных хозяйствах граждан Октябрьского и Суражского сельсоветов.

**Нина Столяренко**
**«Жыццё Прыдзвіння»**

## АБ'ЯВА

***Каб атрымліваць кожны нумар газеты "Дзвінскі Ўзгорак" паведаміце рэдакцыі аб гэтым. Калі не жадаеце атрымліваць газету, то патэдэфануйце.***

***Калі парушаны вашы правы спажыўца, працаўніка, то даем эфектыўныя парады па абароне права і пошуку бясплатных юрыстаў. Звяртайцеся на адрас газеты "Дзвінскі Ўзгорак".***

***Наша газета стала размяшчацца на партале http://kamunikat.org, дзе зацікаўленыя грамадзяне могуць яе спампаваць яшчэ да з'яўлення газеты на паперы.***

БЕЛАРУСЫ СВЕТУ

# ДЫЯСПАРА: БАЛАСТ ЦІ РЭЗЕРВ НАЦЫІ?

**Афіцыйны Мінск не можа і не зможа выбудаваць адносіны з дыяспарай, пакуль не вызначыцца, што ён сам такое: самастойная незалежная дзяржава ці «малодшая сястра Расіі». Калі першае — шанец ёсць. Калі другое — дык дыяспара і не патрэбная…**

Усе краіны свету, за выключэннем хіба Беларусі, вельмі шмат увагі надаюць сваім суайчыннікам за мяжой. Бо дыяспара — гэта рэзерв нацыі. Ва ўсіх сэнсах: эканамічным, інтэлектуальным, палітычным і іншых.

Дыяспара можа выступаць лабістам інтарэсаў метраполіі і шмат чым яшчэ. Нездарма адна наша суседка прыдумала «карту паляка», а другая ўсур’ёз задумваецца пра тое, каб раздаваць свае пашпарты ўсім, хто нарадзіўся ці з’яўляецца нашчадкам жыхароў былога СССР. Пра інтэлектуальны складнік і казаць не варта. Усе мы ў пачатку 1990-х са здзіўленнем адкрывалі для сябе літаратуру эміграцыі, а цяпер за мяжой працуе найбольш актыўная і дасведчаная частка Беларусі: людзі, лёгкія на пад’ём, з веданнем моваў і навучаныя ў сусветна вядомых універсітэтах.

Не трэба думаць, што дыяспара — нейкая «купка адшчапенцаў», якія змянілі Радзіму на прыгожае жыццё. Па-першае, ім тое «прыгожае жыццё» каштавала немалых высілкаў. Па-другое, беларусаў за мяжой не так ужо і мала. Ды што там казаць: у мяне самога сяброў у Беларусі значна менш, чым сяброў за яе межамі. Усе разбегліся пад ціскам абставінаў — хто на Захад, хто на Усход, хто на Поўдзень, ва Украіну, куды, нават нягледзячы на вайну, апошнім часам ідзе проста паломніцтва беларусаў. Іншым разам міжволі нават узнікае пытанне: «А што я тут раблю?».

І вось парадокс: большасць з гэтых людзей у жыцці арганізаванай дыяспары ўдзелу не бярэ. Хаця, здавалася б, мусілі — тут, у Беларусі, яны мелі актыўную грамадзянскую пазіцыю. «Зубр», «Хартыя’97», «Еўрапейская Беларусь», сябры БНФ, АГП і іншых партыйных груповак… За межамі краіны яны сваю пазіцыю нібыта згубілі і занялiся асабістымі, прыватнымі справамі. Мабыць, за куфлем піва ці чаго мацнейшага згадваюць, як раскідвалі ўлёткі з заклікамі на мітынгі, вывешвалі на вуліцах бел-чырвона-белыя сцягі ці малявалі графіці «Жыве Беларусь!»: «Эх, быў час, была эпоха!».

Я цалкам разумею, чаму так адбываецца. Эмігранты «старой хвалі», тых, каго мы цяпер вывучаем у падручніках па фізіцы, касманаўтыцы, геаграфіі і літаратуры, нават на чужыне адчуваюць сябе часткаю Беларусі. Так, яны таксама вымушаныя былі эміграваць — але ў іх душах заставалася тое, пра што пафасна кажуць «патрыятызм». Яны былі выхаваныя такім чынам: нават у часы СССР іх радзімай усё роўна была Беларусь.

«Новыя хвалі эміграцыі» таго патрыятызму не маюць. Дый адкуль? Тыя, хто з’ехаў падчас развалу СССР, не ўсведамлялі Беларусь асобнай краінай. Тыя, хто з’ехаў пазней, альбо ехалі па лепшую долю, альбо былі за мяжу «палітычна выціснутыя».




Апошнія, прайшоўшы праз турмы і спецпрыёмнікі, выдатна ўсведамляюць розніцу паміж Беларуссю і ўладай краіны. Яны лічаць агідным стасавацца, напрыклад, з прадстаўнікамі беларускіх амбасадаў, трымаючы іх за «памагатых рэжыму» (што праўда). Таго самага рэжыму, які як найменш падазраецца ў знішчэнні іх сяброў (так, мы не забыліся пра Захаранку, Красоўскага, Ганчара, Завадскага, загадкавыя смерці Карпенкі і Бябеніна). Гэтыя людзі ствараюць праекты альтэрнатыўнага развіцця Беларусі і стаяць у пікетах ля беларускіх дыппрадстаўніцтваў і будынкаў міжнародных арганізацый, калі туды прыязджаюць дэлегацыі афіцыйнага Мінска. Але каб яны аб’ядноўваліся ў моцныя суполкі, не чуваць.

Іншая і большая частка — тыя, хто з’ехаў у пошуках заможнага жыцця — проста не можа ўсвядоміць сябе часткаю Беларусі. Дый як яны могуць гэта зрабіць? Для гэтага — іх усведамлення — патрэбныя высілкі, найперш дзяржавы. А дзяржава пра гэта мала клапацілася, калі не казаць, што не клапацілася зусім. Беларусаў абзывалі ці то «часткаю рускага народа», ці то «рускімі са знакам якасці», ці то яшчэ нейкай трасцяй — абы не беларусамі. Стварали, ды не стварылі нейкую асаблівую «беларускую ідэалогію», у той жа час падкрэсліваючы «непарыўную сувязь беларусаў і рускіх»… Зразумела, «у цені старэйшага брата» немагчымая ні ўласная ідэалогія, ні патрыятызм.

Дзяржава страціла амаль чвэрць стагоддзя на незразумелыя гульні з самаідэнтыфікацыяй і толькі-толькі пачынае разумець каштоўнасць незалежнасці. Толькі цяпер, квола, пакрысе, робяцца першыя нават не крокі, а погляды ў бок менавіта беларускай гісторыі: Полацкага княства, ВКЛ, БНР — у спробе намацаць тую глебу для беларускага патрыятызму і беларускай нацыянальнай ідэі. І таму страціла вялікую частку эмігрантаў, для якіх «беларус» цяпер — не каштоўнасць, а канстатацыя нацыянальнасці. І нічога больш.

Афіцыйны Мінск не можа і не зможа выбудаваць адносіны з дыяспарай, пакуль не вызначыцца, што ён сам такое: самастойная незалежная дзяржава ці «малодшая сястра Расіі». Калі першае — шанец ёсць. Калі другое — дык дыяспара і не патрэбная…

**Сяргей Пульша**
**“Новы Час”**

ВАКОЛ АЭС

# НІХТО НЕ РАСТЛУМАЧЫЎ ЛУКАШЭНКУ

**Па меры таго як будаўніцтва атамнай станцыі пераходзіць ў стадыю ўсталявання рэактару, колькасць праблемаў, якія паўстаюць перад краінай, будзе толькі нарастаць. І самая галоўная зь іх: навошта?**

У выказваньнях Аляксандра Лукашэнкі пра АЭС на сустрэчы з генэральным дырэктарам расейскай карпарацыі «Росатом» Аляксеем Ліхачовым 24 ліпеня відаць спроба адказаць на гэтае пытаньне. Увогуле ў грандыёзным і вельмі сумнеўным праекце адлюстраваліся ўсе заганы беларускай сацыяльнай мадэлі і асаблівасьці сьветапогляду яе архітэктара.

Вось Лукашэнка кажа: «Нам няпроста далося рашэньне будаваць атамную электрастанцыю пасьля катастрофы на Чарнобыльскай АЭС. Фобіі былі вельмі моцныя, але нам удалося пераканаць насельніцтва, што за гэтым будучыня».

Насамрэч гэта ня так. Ніхто нікога не зьбіраўся пераконваць. Аўтарытарны лідэр мае такую раскошу, як неабмежаваную свабоду рук. Ня трэба нікому нічога тлумачыць, ні з кім спрачацца, ні перад кім ладзіць справаздачу. Ніякай сур’ёзнай размовы з грамадзтвам на гэтую тэму не было. Не лічыць жа за сапраўдны аргумэнт такое тлумачэньне, што, маўляў, пабудаваўшы АЭС, мы зьменшым залежнасьць ад Расеі. Бо насамрэч, у дадатак да газавай, нафтавай залежнасьці ад РФ, зьявіцца яшчэ фінансавая, атамная залежнасьць. І, дарэчы, сацыялягічныя апытаньні паказваюць, што беларускае грамадзтва ў гэтым пытаньні падзялілася прыкладна папалам.

З самага пачатку было зразумела, што будаўніцтва АЭС — гэта не эканамічны, а палітычны праект, пытаньне прэстыжу, іміджу. Лукашэнка хоча ўвайсьці ў гісторыю як лідэр, пры якім Беларусь стала ядзернай, касьмічнай дзяржавай, краінай IT-тэхналёгіяў.

Вось падчас сустрэчы з кіраўніком расейскай карпарацыі ён чарговы раз тлумачыць, чаму прыняў рашэньне будаваць АЭС: «Гэта найвышэйшыя тэхналёгіі. У шэраг з касьмічнымі, IT-тэхналёгіямі, лічбавай эканомікай — за імі будучыня — я стаўлю і будаўніцтва атамнай станцыі».

Уся праблема ў тым, што ніхто з блізкага атачэньня Аляксандра Рыгоравіча ня змог ці не адважыўся растлумачыць яму простую рэч: АЭС — гэта тэхналёгія 1950-х гадоў, індустрыяльнай эпохі. Акурат у пэрыяд сацыялізацыі ягонай асобы, у час яго дзяцінства і маладосьці на інфармацыйным экране дамінавалі аповеды пра мірны атам. Лукашэнка гэта добра засвоіў. Але ён прапусьціў, што з таго часу ў сьвеце адбылося ўжо некалькі тэхналягічных рэвалюцыяў. І сёньня АЭС — гэта ніякая не высокая тэхналёгія, а зусім наадварот. І не за ёю будучыня.

Але атамнаму лёбі лёгка ўдалося пераканаць кіраўніка дзяржавы. Бо яго прадстаўнікі мелі доступ да першай асобы. І цяпер краіна становіцца закладніцай гэтага рашэньня.

Уперсаналісцкай палітычнай сыстэме, у рэжыме асабістай улады праблема доступу да цела набывае вялізнае значэньне. Доўгі час уяўленьне Лукашэнкі аб лічбавай эканоміцы зводзілася да простай як аглобля формулы: інтэрнэт — гэта «помыйка». Але вось Валерыю Цапкалу, які «меў доступ», удалося яго пераканаць, што Парк высокіх тэхналёгіяў можа стаць драйвэрам беларускай эканомікі. І мы маем даволі рэдкую для Беларусі гісторыю посьпеху.

Што да АЭС, то ўжо цяпер, задоўга да завяршэньня будаўніцтва станцыі, узьнікла вялікая праблема: што рабіць зь лішкамі электраэнэргіі, якія непазьбежна зьявяцца. Паводле ацэнак Яраслава Раманчука, сёньня энэргасыстэма Беларусі выпрацоўвае звыш 9 тысяч мэгават (МВт) электраэнэргіі пры сярэдняй патрэбнасьці эканомікі ў 5200 МВт. АЭС дадасьць яшчэ 2400 МВт. І што зь ёю рабіць? Паміраючы, прамысловасьць будзе патрабаваць усё менш электраэнэргіі. Літва і Польшча ўжо заявілі, што ня будуць яе імпартаваць.

ТамуЛукашэнкаўжонекалькі разоў ставіў перад урадам задачу: маўляў, шукайце рашэньне, што рабіць зь лішняй электраэнэргіяй. Гэта і ёсьць эканоміка па-беларуску. Спачатку рэалізуецца вялізны праект, а потым у рэжыме надзвычайнасьці вырашаецца пытаньне, што рабіць з выраблёнай прадукцыяй. Так было з цэмэнтнымі заводамі, з дрэваапрацоўчымі прадпрыемствамі. Вось цяпер рыхтуюцца запусьціць пабудаваны кітайцамі Сьветлагорскі завод беленай цэлюлёзы. Але каму зьбіраюцца прадаваць паперу ў эпоху, калі сьвет пераходзіць да лічбавых тэхналёгіяў? Дарэчы, аналягічныя заводы Беларусі працуюць з загрузкай 15–20%.

Вось так і з АЭС. Каб яе будаўніцтва мела хоць нейкі эканамічны сэнс, трэба ствараць вялізную інфраструктуру, перабудоўваць цэлыя галіны эканомікі, напрыклад, пераходзіць на электрамабілі. Хіба зноў за расейскія крэдыты.

Але галоўная праблема Беларусі неўнедахопегрошай, а ў абсалютна неэфэктыўным іх выкарыстаньні. Як казаў з гэтай нагоды эканаміст Вадзім Іосуб, урад Беларусі паводзіць сябе як гулец у казыно. Чым больш грошай ён атрымлівае, тым бяднейшы робіцца.

Меркаваньні, выказаныя ў блогах, перадаюць погляды саміх аўтараў і не абавязкова адлюстроўваюць пазыцыю рэдакцыі.

**Валер Карбалевіч**

ВАКОЛ БАЗАРА

# ИСПОЛЬЗОВАЛИ И ВЫБРОСИЛИ

**Многие годы фестиваль "Славянский базар" был тесно связан с именем одного из создателей и первого директора Родиона Басса. Но вот уже несколько лет этой фамилии нет в афише фестиваля, а по Витебску ходят самые разные слухи о судьбе первого директора.**

Заявление об увольнении с поста директора фестиваля "Славянский базар" Родион Басс написал в 2013 году — тогда из-за осложнений сахарного диабета ему ампутировали ногу. С тех пор об основателе и руководителе "Славянского базара" ничего не известно. Что сейчас происходит с Родионом Бассом и где он находится?

По Витебску ходят самые разные слухи: одни утверждают, что первого директора фестиваля давно нет в живых, другие утверждают, что тяжело болеет, третьи — что его, больного, бросила жена.

И только немногие близкие люди знают, что на самом деле происходит с человеком, который стал одним из организаторов в городе на Двине международного фестиваля и чье имя некогда было одним из самых известных в Витебске.

**От Дома культуры к международному фесту**

Родион Басс сделал многое для Витебска. В 1976 году, едва он начал работать в городском Доме культуры, практически сразу стал организовывать различные фестивали и конкурсы.

С 77-го по 82-й годы в Витебске проводился конкурс эстрадной песни и музыки "Красная гвоздика", в 78-м году прошел конкурс бального танца "Весенний бал", в 1979 и 1980 годах состоялся фестиваль инструментальной музыки "Витебская осень", который затем перерос в фестиваль джазовой музыки.

В то время джаз еще не был до конца разрешен, и Витебск стал третьим союзным городом после Ленинграда и Ярославля, где проводили подобные фесты. Еще были конкурсы красоты, парады и многое другое.

Но есть у Басса два ключевых мероприятия, благодаря которым он и стал знаменит. Это Всесоюзный фестиваль польской песни, который проводился с 1988 по 1990 годы и специально для которого в Витебске построили Летний амфитеатр. И, естественно, "Славянский базар", который впервые прошел в 1992 году в этом Летнем амфитеатре.

Как бы ни относились к "Базару", все сходятся во мнении, что благодаря этому празднику о Витебске знают во всем мире. За двадцать два года в нем приняли участие представители 63 стран и посетили более 800 тысяч человек. На фестивале представлены все виды современного искусства, и сейчас он проходит на многих сценических площадках города.

Когда в 81-м году Басс стал исполняющим обязанности директора Дома культуры, в его распоряжении было "одно старое здание и девять штатных единиц". А после себя он оставил 11 филиалов и более четырехсот сотрудников, работающих в этой сфере.

Басс — выдающаяся личность, которая, казалось, настолько вписала себя в культурную жизнь города, что не исчезнет из нее никогда!

**"Отработанный материал"**

Но так только казалось. В 2013 году Родион Басс в одночасье лишился ноги, должности и пропал со всех информационных радаров.

Более того, за последние четыре года о нем практически не вспоминали, будто и не было человека, создавшего в обычном областном центре крупный международный фестиваль.

Между тем, Родион Басс месяца четыре назад пережил ампутацию второй ноги, ослеп и, по словам близких, его состояние постоянно ухудшается. Вторая ампутация подкосила его окончательно.

Бывшего директора фестиваля выписали из больницы, сообщив, что сделали все, что могли, и теперь ему нужен домашний уход. Складывается впечатление, что от него просто избавились.

Слухи о том, что жена его бросила, уехав в Россию, близкие к семье люди опровергают. Супруга ухаживает за ним вместе с матерью и детьми. Вся семья заботится о больном и поддерживает его.

Кто еще помогает заслуженному деятелю культуры Республики Беларусь и основателю "Славянского базара"? Витебский еврейский центр, который недавно предоставил ему сиделку. И все!

По словам знакомых Родиона Басса, за все время после увольнения его навещали лишь рядовые работники городского Центра культуры: методисты, шоферы, секретари. Из руководства один раз в прошлом году приходил нынешний директор "Славянского базара" Александр Сидоренко, который принес пригласительный билет на фестиваль, но Басс отказался.

"Он очень тяжело пережил свой уход, ведь "Славянский базар" был жизнью для Родиона. У него таких проблем со здоровьем не было бы, если бы он следил за ним, но он все свои силы и время отдавал фестивалю. Естественно, что его обидело такое отношение к себе: просто использовали человека и выкинули", — рассказала одна из знакомых Басса.

Единственное, чем отметили заслуги основателя "Славянского базара" перед городом — это пандус для инвалидной коляски, сделанный при выходе из подъезда. Теперь у родственников возникает другая проблема — добраться до него, поскольку они живут на третьем этаже в доме без лифта.

За фестивалем его основатель не следит: во-первых, не хочет, а во-вторых, он сейчас в слишком тяжелом состоянии. Когда ему зачитали статью о критике в адрес нынешнего руководства фестиваля, которую озвучил российский музыкальный критик и журналист Сергей Соседов на пресс-конференции, больной просто расплакался.

Поскольку Родион Басс — почетный гражданин Витебска, ему присылают пригласительные билеты на различные праздничные мероприятия, но всегда почему-то на одного человека, что заставляет родственников недоумевать.

"Ведь всем известно, в каком он сейчас состоянии, он один не то, что в город, а в ванную комнату не может пройти. Понятно, что он никуда не поедет, и эти пригласительные на одного человека выглядят, как издевательства", — рассказала одна из знакомых семьи.

Но шоу продолжается — сверкает огнями праздничный "Базар", над Витебском звучит музыка. Вот только имя одного из создателей и первого директора Родиона Басса никто не вспоминает...

**по информации sputnik.by**

БЯСПЕКА РУХУ

# ДАІ НЕ РЭКАМЭНДУЕ ЧАПЛЯЦЬ ГЕОРГІЕЎСКІЯ СТУЖКІ

**У Сьветлагорску пасьля амаль месячнага перапынку зноў пачалі рэзаць колы аўтамабіляў, на якіх прымацаваныя так званыя «георгіеўскія стужкі». Чарговы інцыдэнт адбыўся ў ноч з 15 на 16 ліпеня ў мікраraёне «Маладзёжны».**

«Пашкоджанымі аўтамабілямі займаюцца супрацоўнікі крымінальнага вышуку, — кажа начальнік Сьветлагорскага аддзяленьня ДАІ Васіль Гапоненка. — „Георгіеўскія стужкі" раздавалі валянтэры падчас мінулых сьвятаў, некаторыя аўтааматары і пачапілі іх на свае аўтамабілі. Мы можам толькі рэкамэндаваць кіроўцам гэтага не рабіць. І рэкамэндуем».

Мясцовыя жыхары ў Сьветлагорску лічаць, што тут зьявіўся наступнік героя савецкай камэдыі «Сьцеражыся аўтамабіля» са сваёй адметнай спэцыялізацыяй. Той Дзетачкін краў аўтамашыны ў людзей, якія жылі на «непрацоўныя даходы», прадаваў, а выручаныя грошы пералічваў на рахункі дзіцячых дамоў.

Цяперашні «сьветлагорскі Дзетачкін», на думку грамадзкага актывіста, гісторыка Тэльмана Масьлюкова, «ваюе» не з аўтамашынамі, а з «русским миром», з сэпаратызмам ды імпэрскасьцю, сымбалем якіх стала расейская георгіеўская стужка падчас вайны на ўсходзе Ўкраіны і акупацыі Крыму.

«Некалі георгіеўская стужка, праўда, у крыху іншай колеравай гаме, асацыявалася з воінскай адвагаю, а цяпер у многіх выклікае адмоўныя эмоцыі. Гэта як свастыка: калісьці яна была графічным адлюстраваньнем сонца, а ў руках фашыстаў стала сымбалем зла і гвалту», — сказаў Свабодзе гісторык Масьлюкоў.

У чэрвені міліцыя зафіксавала ў Сьветлагорску каля дзесяці выпадкаў пашкоджаньня аўтамабіляў з георгіеўскай стужкай. Невядомы зламысьнік праколваў шыны ў пакінутых каля дамоў аўто. Найбольш такіх выпадкаў зафіксавана было менавіта ў мікраёне «Маладзёжны». На адной з машын невядомы нават паскакаў, моцна пашкодзіўшы кузаў.

Пасьля публікацыі ў мэдыя інфармацыі пра выхадкі «мясцовага Дзетачкіна» машыны з георгіеўскімі стужкамі пакінулі ў спакоі. Але ненадоўга.

«Маёмасьць, безумоўна, нельга псаваць, — перакананы сьветлагорскі прадпрымальнік Юры Ляшэнка, які займаецца пасажырскімі аўтаперавозкамі. — Але ня трэба й правакаваць людзей на нэгатыўную рэакцыю, чапляючы георгіеўскія стужкі ды прыклейваючы партрэты Сталіна на капот або шкло. Паласатая стужка, якую памылкова называюць „георгіеўскай", неадназначна ацэньваецца ў нашым грамадзтве. У Берасьці і Магілёве ДАІ адрэагавала штрафамі на такія „ўпрыгажэньні" аўтамабіляў. І правільна. Аўтамабілі з графіці на капотах ды бакавінах наагул не павінны на тэхаглядах дапускацца да эксплюатацыі на беларускіх дарогах».

**https://www.svaboda.org**

"ЗАРОБКІ"

# УЛАДНЫ "БІЗНЕС"

**Сьледчы камітэт «зарабіў» больш за 35 мільёнаў даляраў**

Пра гэта паведамілі ў цэнтральным апараце Сьледчага камітэту Беларусі па выніках паседжаньня калегіі.

У ведамстве таксама адзначылі, што падвышаецца ўзровень апэратыўнасьці расьсьледаваньня: за першыя шэсьць месяцаў больш за палову (51,7%) крымінальных справаў скончана ў тэрмін да аднаго месяца, — падкрэсьлілі ў Сьледчым камітэце.

Днямі Свабода апублікавала статыстыку іншага ведамства — Вярхоўнага суду Беларусі. Згодна зь яго зьвесткамі, па выніках першага паўгодзьдзя сёлета больш за ўсё асуджаных якраз за злачынствы супраць уласнасьці — 8 217 чалавек. Агулам асуджаных 21 326 чалавек, апраўданых 36 чалавек.

Самы пашыраны від пакараньня — пазбаўленьне волі. У калёніі за першую палову году адбываць пакараньне адправілі 6 335 чалавек. Абмежаваньне волі прызначанае 3 915 асуджаным, зь іх так званую «хімію» атрымалі 1293 чалавекі, «хатнюю хімію» — 2 622.

Папраўчыя работы прысудзілі 902 парушальнікам, арышт — 3480, штраф — 2443, грамадзкія работы — 2412, пазбаўленьне права займаць пэўныя пасады або займацца пэўнай дзейнасьцю — 125.

Калі зыходзіць з агульнай колькасьці, доля апраўдальных прысудаў склала 0,1688%.

**"Радыё Свабода"**

**Заснавальнік і рэдактар:** Смолікаў Канстанцін Эдуардавіч

**Адрас рэдакцыі:** г. Віцебск, вул. 1-я Сененская д.5, Тэл. +375-29-218-98-38, e-mail: kas_vit@tut.by
Газета выдаецца з лютага 2014 г.

**Падпісана да друку 30.07.2017 у 17.10**
Наклад: 290 асобнікаў.
Выдаецца адзін-два разы на месяц на беларускай і расійскай мовах.

Рэдакцыя можа друкаваць артыкулы дзеля палемікі, не падзяляючы пазіцыі аўтараў.
Друкуецца пры падтрымцы аднадумцаў.
Распаўсюджваецца бясплатна дабраахвотнікамі.